# наша свабода

№15(242) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДУ

8 ЛЮТАГА 2002 году ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 284-36-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ


## 10 гадоў БДГ

«Белорусская деловая газета» адзначае сваё 10-годдзе. З'яўленню ў 1992 годзе «БДГ» папярэднічала вузкаспецыялізаванае выданне «Биржи и банки. Белорусская деловая газета», адкрытае беларускім бюро расійскай газеты «КоммерсантЪ».

Паводле словаў галоўнага рэдактара «БДГ» Пятра Марцава, у розныя гады «газета была горшай-лепшай, але яна развівалася насуперак логіцы часу». «Сёння гэта тая газета, з якой лічацца. І гэта, можа быць, галоўная якасць, – лічыць галоўны рэдактар. – Мы вучыліся працаваць». Зараз, паведаміў Пётр Марцаў, «БДГ» адкрывае новы, «не меней рызыкоўны праект» – штомесячны дадатак «БДГ для служебного пользования».

**БелаПАН**

## У падтрымку Клімава

Апоўдні 11 лютага, у чацвёртую гадавіну арышту дэпутата Вярхоўнага Савету XIII склікання Андрэя Клімава, актывісты Аб'яднанай грамадзянскай партыі сшыхтуюцца ў «Ланцуг неабыякавых людзей» ля калоніі па вуліцы Кальварыйскай у Мінску, дзе А.Клімаў адбывае пакаранне.

Нагадаем, што ён быў асуджаны да шасці гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Сваёй віны А.Клімаў не прызнаў, абарона настойвала на адсутнасці ў яго дзеяннях складу злачынства, а праваабаронччыя арганізацыі заявілі пра палітычную матываванасць прысуду.

**Генадзь БАРБАРЫЧ, БелаПАН**

## У Мінску – эпідэмія грыпу

Эпідэмія грыпу аб'яўленая ў Мінску ўчора. Адпаведную пастанову падпісаў галоўны санітарны ўрач Мінску Фёдар Германовіч.

У адпаведнасці з пастановай, гарадская санітарная служба мусіць увесці комплекс супрацьэпідэмічных мерапрыемстваў, закліканых звесці да мінімуму рызыку захварэць на грып.

Як заявіў Ф.Германовіч, у Мінску пануе вірус грыпу «В», больш уласцівы для еўрапейскай часткі Расіі. Аднак у той жа час не выключанае з'яўленне і вірусу «А» – «госця» з Еўропы.

Медыкі маркуюць, што грыпавая эпідэмія зацягнецца надоўга, і раяць ужываць больш вітамінаў і менш кантактаваць з людзьмі.

**Ірына СТАРЦАВА**

## У Беларусі лечаць лепш

Па ўзроўні аховы здароўя Беларусь знаходзіцца на 72-м месцы ў свеце. Згодна з апошняй справаздачай Сусветнай арганізацыі аховы здароўя (СААЗ), найлепшы паказчык сярод краін СНД мае Казахстан – 64-е месца. Украіна заняла ў гэтым спісе 79-е месца, Малдова – 101-е, Арменія – 104-е, Азербайджан – 109-е, Грузія – 114-е, Узбекістан – 117-е, Расія – 130-е, Кыргызстан - 151-е, Туркменістан – 153-е, а Таджыкістан – 154-е месца.

Як адзначана ў апошняй справаздачы СААЗ, найлепшая грамадская сістэма аховы здароўя ў свеце створана ў Францыі. На другім месцы знаходзіцца Італія, на трэцім – Сан-Марына. У першую дзесятку таксама ўвайшлі Андора, Мальта, Сінгапур, Іспанія, Аман, Аўстрыя і Японія.

**Вольга АСІПЕНКА**

# Сёння – Алімпіяда!




*Літаральна некалькі гадзінаў засталося да таго моманту, калі ў амерыканскім горадзе Солт-Лэйк-Сіці запаліцца алімпійскі агонь у гонар адкрыцця чарговай зімовай Алімпіяды.*

З ноў свята вялікага спорту пройдзе пры актыўным удзеле беларускіх спартсменаў, якія на гэтых гульнях разлічваюць узяць рэкордную за ўсе суверэнныя гады колькасць узнагарод. Нагадаем, што ў 1994 годзе ў нарвежскім Лілехамеры нашы атлеты ўзялі два срэбныя медалі, у 1998 у японскім Нагана – два бронзавых. Цяпер жа, па словах міністра спорту Я.Ворсіна, медалёў агулам павінна быць тры. Лукашэнка ж, аднак, на сустрэчы з кіраўнічым складам дэлегацыі настойваў на пяці медалях. Застаецца толькі здагадвацца, што будзе, калі патрэбнай колькасці ўзнагарод не заваююць.

Рэальныя шансы на ўзнагароды беларусы маюць у фрыстайле і біятлоне. Даволі празрыстыя – у лыжных гонках і ў канькабежным спорце. Вялікую цікавасць прадстаўляе таксама выступленне на Алімпійскіх гульнях састарэлай беларускай хакейнай зборнай.

Калі ўсё ж кідацца ў няўдзячнае русла прагназоў, то, улічваючы цяжкую траўму нашай галоўнай алімпійскай надзеі Дзмітрыя Дашчынскага і стандартнае беларускае нешанцаванне, на думку НАШАЙ СВАБОДЫ, наша краіна можа разлічваць на 2 медалі. І хутчэй за ўсё золата гэтым разам у нас усё ж будзе (маецца на ўвазе Ала Цупер). Але галоўнае – гэта не сурочыць.

Урачыстае адкрыццё, гэтаксама як і найбольш цікавыя для беларусаў спаборніцтвы, можна будзе ўбачыць на БТ, а таксама на расійскіх каналах. Рай ка для аматараў спорту, безумоўна, мясціца на хвалі канала «Еўраспорт», дзе трансляцыі з Алімпійскіх гульняў будуць весціся амаль круглыя суткі, і на канале «НТВ+спорт», дзе словы «амаль» можна выкінуць.

Пажадаем поспехаў нашым спартсменам!

**Аляксей СТАЎСКІ**

# Фальшывыя даляры

## *знойдзены ў доме Вольгі Корбут*

*Хваля скандалу вакол чатырохразовай алімпійскай чэмпіёнкі з Беларусі ўздымаецца ўсё вышэй. У пазамінулым нумары мы паведамілі пра тое, што Вольгу Корбут былі арыштавалі за спробу скрасці з крамы прадукты агульным коштам 19 даляраў. Тады яе выпусцілі на волю пасля ўплаты закладу ў 600 даляраў, хутка абдудзецца суд.*




Літаральна праз некалькі дзён стужкі інфармацыйных агенцтваў «аздобіла» яшчэ адно паведамленне. Аказваецца, у доме «цуду з касічкамі» ў штаце Джорджыя быў знойдзены пакет з даларамі ЗША, і экспертыза прызнала іх фальшывымі.

Агенцтва *Reuters* са спасылкай на амерыканскія спецслужбы распавяло наступнае. Дом у прыгарадзе Атланты Дулуце (штат Джорджыя), дзе жыла Вольга Корбут з мужам, быў закладзены за 240 000 даляраў. Калі тэрмін закладной скончыўся, а грошы па ёй не былі сплачаныя, паліцыя прыбыла туды, каб выселіць былую алімпійскую чэмпіёнку. Гэта было 5 снежня мінулага году.

Шэрыф знайшоў дом «пакінутым і значна пашкоджаным». Ягоны намеснік Трэйсі Лі зайшоў усярэдзіну, каб перадаць гаспадарам дакументы аб адчужэнні маёмасці, але там нікога не было. Па ягоных словах, усярэдзіне панаваў беспарадак, электравыключальнікі і дзверы адсутнічалі, адна шыба – выбітая, у кухонным гарнітуры не хапала шуфлядаў. На другім паверсе будынку памочнік шэрыфа знайшоў пластыкавы пакет, які ляжаў непадалёк ад некалькіх камп'ютэраў на другім паверсе. У пакеце знаходзілася вялікая колькасць амерыканскіх грошай. Пазней экспертыза засведчыла іхнюю несапраўднасць. Паведамляецца таксама, што ў доме В.Корбут паліцыя знайшла пэўную колькасць спартыўных узнагародаў, а таксама амаль двухметровы партрэт гаспадыні ў юнацтве.

Суседзі паведамілі, што гаспадары з'ехалі некалькі тыдняў таму. Аднак у доме павінен быў заставацца іхні 22-гадовы сын.

Як заявіў прадстаўнік *US Secret Service* Біл Крыл, ягонае ведамства зараз высвятляе паходжанне фальшывых даляраў, знойдзеных у доме В.Корбут. Б.Крыл паведаміў *Reuters*, што спецслужбы пакуль «зрабілі толькі першыя крокі ў расследаванні». Па ягоных словах, у пакунку, знойдзеным паліцыяй, было болей за 4 000 даляраў, аднак «агенты працягваюць падлічваць» банкноты. Усе фальшыўкі – у 100-даляравых купюрах.

Як піша *The New York Times*, узяць каментар у самой «гераіні скандалу» – Вольгі Корбут – не ўдалося. Яе прадстаўніца Кей Уэзерфард паведаміла атланцкай газеце, што Корбут «не мае ніякага ўяўлення» наконт падробных грошай і што яна пэўны час ужо не жыла ў гэтым доме.

Нагадаем наймаладзейшым чытачам, што ў 1972 годзе 17-гадовая беларуская гімнастка Вольга Корбут зрабіла сапраўдную сенсацыю на Алімпіядзе ў Мюнхене, калі выйграла тры залатыя медалі. Яшчэ адзін залаты медаль яна заваявала ў Манрэалі ў 1976 годзе. З 1991 году Вольга Корбут жыве ў ЗША, працуе трэнерам па гімнастыцы. Ёй цяпер 46 гадоў. Яе муж – Леанід Барткевіч, вядомы ў мінулым спявак гурта «Песняры». Сын – 22-гадовы Рычард Барткевіч.

**Міхась КАРПОВІЧ**

## ВЕСТКІ



## У Солт-Лэйк-Сіці ўзмацняецца бяспека

Як паведаміў БелаПАНу 5 лютага па тэлефоне з Солт-Лэйк-Сіці прэс-аташэ Нацыянальнага алімпійскага камітэту Беларусі Пётр Рабухін, на ўездзе ў Алімпійскую вёску супрацоўнікі мясцовых праваахоўных органаў пільна аглядаюць усе аўтамабілі і асабістыя рэчы, у тым ліку адзенне. Па самой вёсцы курсіруюць паліцэйскія машыны. На нарадзе шэфаў місій старшыня аргкамітэту Гульняў Міта Ромні заявіў, што галоўнае для яго – не сама Алімпіяда, а захаванне яе бяспекі ў сувязі з магчымымі тэрарыстычнымі актамі.

## Расія зноў заплаціць нам

Пагадненне пра ўмовы прадастаўлення і тэрміны выдзялення трэцяга траншу крэдыту Цэнтральнага банку Расіі Беларусі павінна быць канчаткова ўзгоднена да 1 красавіка. Пра гэта паведаміў першы намеснік старшыні Нацыянальнага банку Беларусі Павел Калавур. Аб'ём трэцяга траншу складзе 1,5 млрд. расійскіх рублёў, сказаў Павел Калавур. Як і першыя траншы, сродкі будуць прызначаны на стабілізацыю нацыянальнай валюты Беларусі. На думку першага намесніка старшыні НББ, сродкі могуць быць выдзелены да канца 2002 году.

## Візы ў Польшчу

Візы для ўезду на тэрыторыю Польшчы з Расіі, Украіны і Беларусі, хутчэй за ўсё, будуць уведзены польскім урадам у сярэдзіне 2003 году. Як паведаміла *Gazeta wyborcza*, ужо праз некалькі тыдняў прадстаўнікі польскага ўраду прывязуць у Брусель графік уводу візаў. Гэта дазволіць польскаму боку завяршыць перамовы з Еўракамісіяй па раздзелах «Юстыцыя» і «Унутраныя справы», як гэта ўжо зрабілі Чэхія і Венгрыя. На думку экспертаў Еўракамісіі, візы павінны быць уведзены прынамсі за паўгода да ўступу Польшчы ў ЕС.

## Золата даражэе

Цана на золата падскочыла ў аўторак у Нью-Ёрку да двухгадовага максімуму, наблізіўшыся да адзнакі 300 даляраў за унцыю, на фоне прагнозаў пра магчымасць скарачэння паставак металу здабыўнымі кампаніямі, паведамляе *Bloomberg*. У канцы студзеня паўднёваафрыканская *AngloGold* следам за іншымі вытворцамі паведаміла пра скарачэнне продажаў золата. На таргах на *Comex* золата вырасла ў цане на 3,1% – да 299,10 даляра за унцыю. Гэта самы высокі ўзровень з лютага 2000 году.

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага даляра на «чорным рынку» 1680**

# Захаваць статус полацкай Сафіі

*Віцебскі аблвыканкам адказаў адмовай на хадайніцтва грэцка-каталіцкай рэлігійнай абшчыны Полацку аб перадачы Сафійскага храма вернікам-уніятам.*

У адказе паведамляецца, што на будынак Сафійскага сабора «неадназразова прэтэндавалі як праваслаўная, так і каталіцкая цэрквы. Сафійскі сабор як музей гісторыі архітэктуры і канцэртная зала арганнай музыкі – асноўны суб'ект Полацкага гістарычна-культурнага запаведніка. Уяўляючы сабою сімвал беларускай дзяржаўнасці і духоўнасці народу, ён павінен служыць усім вернікам і тым, хто не верыць у Бога. Штогод з экспазіцыяй Сафійскага сабору знаёмяцца больш за 250 тысяч чалавек, у год праходзіць больш за 400 канцэртаў».

Каментуючы ў інтэрв'ю БелаПАНу гэты дакумент, старшыня рады грэцка-каталіцкай рэлігійнай абшчыны Полацку Мікалай Шарах зазначыў, што сабор з часу свайго заснавання ў XI стагоддзі належаў Кіеўскай мітраполіі і ніколі не знаходзіўся ў падначаленні мітраполіі Маскоўскай. Пасля разбурэння храма на пачатку XVIII стагоддзя расійскімі войскамі яго аднавілі уніяты, і да 1839 году (калі грэка-католікаў далучылі да Рускай праваслаўнай царквы) ён дзейнічаў як кафедральны уніяцкі сабор. Пры гэтым Мікалай Шарах нагадаў, што ліквідацыя уніі адбывалася гвалтоўна – толькі з Полацкай епархіі рэпрэсіі зазналі 152 святары. Нягледзячы на гвалт, ва ўсёй епархіі за далучэнне да праваслаўя падпісаліся толькі 186 святароў з 680.

Вось чаму, паводле словаў сп. Шараха, абшчына лічыць сябе законнай пераемніцай Полацкай грэцка-каталіцкай епархіі, якая існавала да 1839 году. «Мы лічым, што любое рашэнне аб змене ўласніка ці формы выкарыстання сабору не можа адбывацца без паўнамоцных прадстаўнікоў Полацкай грэцка-каталіцкай абшчыны», – сказаў сп.Шарах. Паводле яго словаў, абшчыне стала вядома пра нядаўняе, пакуль не абвешчанае рашэнне ўраду па супольным выкарыстанні Полацкай Сафіі дзяржавай і праваслаўнай царквою. «Калі дзяржава аднолькава ставіцца да ўсіх канфесій, то ўлады павінны вырашыць гэтае пытанне не кялейна, а адкрыта», – заключыў Мікалай Шарах.

**БелаПАН**

# Месцы, якія пустымі не бываюць

Ужо на першым паседжанні абноўленага складу ЦВК 31 студзеня пастаноўлена да 2 красавіка правесці давыбары трох сенатараў, што выбылі летась, па Гомельскай, Гродзенскай ды Брэсцкай абласцях. На Гомельшчыне трэба выбраць сенатара замест Уладзіміра Муляка, які з'ехаў на сталае жыхарства ў Расію; на Гродзеншчыне сенатара трэба абраць замест нябожчыка губернатара Аляксандра Дубко; прадстаўнік Брэсцкай вобласці Пётр Брыгадзін прызначаны міністрам адукацыі – а міністэрская пасада несумяшчальная са статусам сенатара. Пасля даабрання сенатараў Савет рэспублікі будзе налічваць 63 дэпутаты з 64 – адно месца застаецца ў рэзерве за А.Лукашэнкам. У лютым па рэгіёнах мусяць прайсці сумесныя паседжанні выканкамаў з прэзідыумамі мясцовых Саветаў па вылучэнні кандыдатаў у СР. Лідзія Ярмошына ўпэўненая, што да 2 красавіка, калі пачнецца вясновая сесія Нацыянальнага сходу, усе тры вакансіі запоўняцца.

**Рыгор БУЯН**

# «Зубр» аб'яўляе мараторый на графіці




На скліканай прэс-канферэнцыі актывісты руху «Зубр» распавялі пра новую тактыку і стратэгію сваёй незарэгістраванай арганізацыі. У прыватнасці, было абвешчана, што «зубры» пераходзяць на некаторы час з палітычнай тэматыкі кампаній на сацыяльную.

Адным з аспектаў такіх пераводзінаў стане часовы мараторый на графіці на будынках. Улюбёныя «зубрамі» графіці, па словах супрацоўнікаў мінскіх ЖЭСаў, перашкаджаюць ім наводзіць парадак у дамах і на вуліцах, бо шмат часу займае зафарбоўванне разнастайных дэвізаў. А зафарбоўваць іх трэба, бо так загадваюць зверху.

На 80 працэнтах мінскіх пад'ездаў цягам мінулага месяца былі развешаныя аб'яўкі з нумарам ЖЭСа і тэлефонам мясцовай дыспетчарскай, каб жыхары, у якіх, прыкладам, працякае дах, звярталіся ў ЖЭС. Усё гэта, па словах актывістаў руху Андрэя Пятрова, Ірыны Тоўсцік ды Цімафея Дранчука, якія праводзілі прэс-канферэнцыю, робіцца з тае прычыны, што дзяржаўнае тэлебачанне стараецца пераканаць людзей у тым, што ўзровень жыцця ў краіне расце, а насамрэч умовы жыцця ўсё больш пагаршаюцца. Дэвізы новай кампаніі – «Так жыць нельга!» і «Будзем разам і Беларусь стане чыстай».

Дзесяткі акцыяў сацыяльнай арыентацыі былі праведзеныя «зубрамі» і ў рэгіёнах.

**Віктар СЕВЕРЦАЎ**

# Пагадненне аб турызме

Пагадненне аб супрацоўніцтве ў галіне турызму падпісалі ў Вільнюсе першы намеснік міністра спорту і турызму Беларусі Генадзь Аляксеенка і віцэ-міністр гаспадаркі Літвы Гедымінас Мішкініс.

Як паведаміў прэс-сакратар Міністэрства замежных спраў Беларусі Павел Латушка, пагадненне прадугледжвае актывізацыю абмену турыстычнай інфармацыяй, стымуляванне развіцця турызму, а таксама садзейнічанне ва ўмацаванні супрацоўніцтва турыстычных арганізацый дзвюх краін. На прэс-канферэнцыі пасля падпісання пагаднення Гедымінас Мішкініс паведаміў, што па колькасці турыстаў, якія наведваюць Літву, Беларусь займае трэцяе месца пасля Польшчы і Расіі. Летась, напрыклад, у Літве пабывалі 640,7 тысячы жыхароў Беларусі.

Знаходзячыся ў Вільнюсе, беларуская дэлегацыя правяла перамовы з дырэктарам Дэпартаменту турызму пры Міністэрстве гаспадаркі Літоўскай Рэспублікі, прэзідэнтам Асацыяцыі турызму , а таксама сустрэлася з прадстаўнікамі мясцовых самакіраванняў Друскінінкая і Палангі, кіраўнікамі турыстычных фірм.

**БелаПАН**

# У Беларусі ўзрастае збыт фальшывых банкнот

У 2001 годзе ў Беларусі было выяўлена 1 444 падробныя банкноты, што на 164 больш, чым летась. Як паведамілі БелаПАНу ва ўпраўленні інфармацыі Нацыянальнага банку, значна ўзрос выраб і збыт фальшывых даляраў ЗША. Разам з тым зменшылася колькасць падробак разліковых білетаў Нацыянальнага банку. Павялічылася колькасць фальшывых даляраў ЗША класу «супер», якія выяўляюцца найцяжэй, а таксама выкананых спосабам частковай падробкі. Пры гэтым, як і раней, большасць банкнот была перароблена з 5 на 50 даляраў ЗША. Лічбы на купюрах, што замяняюць, вырабляюцца ў асноўным на капіравальнай тэхніцы.

Збываліся такія грошы пераважна ў Мінску, Брэсцкай і Віцебскай абласцях. Што да падробак банкнот нацыянальнай валюты, то 98 працэнтаў такіх фальшывак былі прыняты касірамі суб'ектаў гаспадарання, якія ажыццяўляюць рэалізацыю тавараў і паслуг за наяўны разлік, і выяўлены толькі пры пералічванні інкасаванай выручкі ва ўстановах банкаў.

**Аляксей АРЭШКА**

# Фронт заклапочаны выбарамі

9 лютага БНФ праводзіць чарговы Сойм. На ім, апрача арганізацыйных пытанняў, збіраюцца абмеркаваць ход падрыхтоўкі да выбараў у мясцовыя саветы, якія маюць прайсці да 4 сакавіка 2003 года. Другім найважнейшым пытаннем павінна стаць магчымасць кааліцыйнага будаўніцтва з удзелам Фронту.

**Р.Б.**

# Спыніць пераслед Саюзу беларускіх пісьменнікаў

## *Заява Сакратарыята Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны*

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны рашуча асуджае дзеянні ўладных структур, накіраваныя на метадычнае маральнае і фінансавае ўдушэнне пісьменніцкай арганізацыі.

Цягам апошніх пяці гадоў Саюз пісьменнікаў цярпіць знявагі, абразы і здзекі. Спачатку забаранілі называцца Беларускім, затым адабралі маёмасць, пазбавілі ўсялякіх сродкаў для існавання і пастаянна ў дзяржаўных сродках масавай інфармацыі здзекваюцца з тых, хто складае гонар беларускай літаратуры, гонар беларускай нацыі. Вядомы культурна-асветніцкі асяродак сталіцы Дом літаратара ператварылі ў «раскіданае гняздо».

Усё гэта робіцца тымі, хто, маючы ўладу, зацята змагаецца з аплотам беларушчыны, з беларускай мовай, на якой ствараецца пераважная бальшыня твораў нашых пісьменнікаў. Такія дзеянні інакш, як вандалізмам, не назавеш.

Сённяшнія ўлады Беларусі! Пакайцеся перад Богам і людзьмі, вярніце нарабаванае і спыніце пераслед пісьменніцкай арганізацыі.

**31. 01. 2002 г.**

# «Крыга» мастака-каваля




У мінскім Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва адкрылася выстава «Крыга», на якой прадстаўлены унікальныя творы мастака-каваля з Гродна Юрася Мацко. Гэта першая ў музеі выстава мастацкага кавання па метале.

Архітэктар па адукацыі, рэстаўратар Юрась Мацко стаў прафесіянальна займацца мастацкім каваннем па метале з 1990 году. З 1992 году ён бярэ ўдзел у шматлікіх выставах у Беларусі і за яе межамі.

Сакратар Беларускага саюзу мастакоў Аляксандр Фінскі назваў экспазіцыю выставы «адкрыццём асобы». «Адзіны з мастакоў-кавалёў, Юрась Мацко змог злучыць традыцыі старадаўняга мастацтва з сучасным мысленнем. Метал у яго становіцца паэтычным вобразам», – сказаў А.Фінскі.

У прадстаўленых на выставе кампазіцыях адлюстраваны трагізм беларускай гісторыі. Сістэма мастацкіх вобразаў Ю.Мацко грунтуецца на нацыянальных арыенцірах, а ідэйная скіраванасць яго твораў непарыўна звязана з развіццём гістарычнай свядомасці і фармальна праяўляецца ў выкарыстанні народных арнаментаў і паганскай сімволікі.

Выстава работ Юрася Мацко працягнецца да 1 сакавіка.

**Марат ГАРАВЫ, БелаПАН**

# Затрыманы 16 нелегалаў

5 лютага на ўчастку Лідскага пагранічнага атраду (Гродзенская вобласць) пры спробе незаконнага перасячэння дзяржаўнай мяжы з Беларусі ў Літву пагранічны нарад сумесна з супрацоўнікамі органаў унутраных спраў затрымаў 4 грамадзян В'етнаму. Яны расказалі, што да лініі мяжы рухалася група з 16 чалавек, якая потым раздзялілася. Крыху пазней знайшлі і затрымалі астатніх 12 грамадзян В'етнаму.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ**

# Усё, што вы хацелі ведаць пра пашпарты

19 лютага з 12 да 16 гадзін упраўленне інфармацыі і грамадскіх сувязей Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі арганізуе па тэлефоне 29-71-86 «прамую лінію» з намеснікам начальніка ўпраўлення пашпартна-візавай службы МУС палкоўнікам Валерыем Казлоўскім.

На абмеркаванне прапаноўваюцца пытанні, датычныя пашпартызацыі насельніцтва, тэрмінаў дзеяння замежнага пашпарта, пашпарта СССР узору 1974 года і пашпарта грамадзяніна Рэспублікі Беларусь узору 1993 года з гербам «Пагоня»; парадку выезду за мяжу і ўезду на тэрыторыю краіны; пакідання іншаземцаў на сталае жыхарства ў Рэспубліцы Беларусь, атрымання грамадзянства; праблемы міграцыі і нелегальнай міграцыі.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ**

# Не куры ў ложку!

Сёлета на пажарах у Гродзенскай вобласці загінулі 22 чалавекі. Летась – 154. Як паказвае досвед, нярэдка людзі нападпітку кураць у ложку, выклікаюць пажар і гінуць самі. Таму мясцовыя пажарнікі з МНС паставілі дадаткова на ўлік больш за 11 з паловай тысяч аматараў гарэлкі. Каля 7 тысяч далі падпіску аб тым, што будуць выконваць правілы пажарнай бяспекі. Старых вяскоўцаў, якія самі не здольныя паліць у печы, па просьбе пажарнікаў змяшчаюць на зіму ў дамы для састарэлых.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

# Прыйшла пара банкруцтваў

*Беларуская эканоміка аганізуе. Гэта змушаны прызнаць нават прадстаўнікі афіцыйных уладаў. Прынамсі, падчас калегіі Вышэйшага гаспадарчага суду ягоны кіраўнік Віктар Камянкоў прызнаўся, што апошнім часам у судах усё часцей гучыць слова «банкруцтва».*

Гаспадарчыя суды краіны з'яўляюцца вельмі добрым люстэркам айчыннай эканомікі. Менавіта гэтыя судовыя ўстановы адлюстроўваюць найбольш значныя хібы ў айчыннай эканоміцы. І таму ўдзельнікі выніковай калегіі Вышэйшага гаспадарчага суду (ВГС) Беларусі не толькі прааналізавалі сваю дзейнасць, але міжволі паставілі дыягназ эканоміцы краіны.

Сярод іншага старшыня ВГС Віктар Камянкоў паведаміў: апошнім часам у гаспадарчыя суды вельмі часта пачалі паступаць справы пра банкруцтва. Летась, напрыклад, было пададзена 922 адмысловыя заявы, з якіх суды прынялі 677. Праўда, суддзі паспелі разгледзець толькі 265 справаў аб банкруцтве, і з іх 237 цалкам ці часткова задаволены.

Віктар Камянкоў прызнаўся: суддзі занепакоены шматлікасцю патрабаванняў ад крэдытораў і падатковых органаў прызнаць банкрутамі буйныя прадпрыемствы, у тым ліку горадаўтваральныя. Да прыкладу, у Мінску цяпер разглядаюцца справы пра банкруцтва слыннага гадзіннікавага заводу, а таксама буйнога прадпрыемства ваенна-прамысловага комплексу «Калібр».

Спадар Камянкоў распавёў і амаль анекдатычныя выпадкі. У Віцебскай вобласці падатковыя органы ініцыявалі справы пра банкруцтва прадпрыемстваў райсельгасхіміі і райаграпрамтэхнікі за запазычанасці перад дзяржбюджэтам. Хоць агульнавядома: гэтыя прадпрыемствы скрозь дзяржаўныя.

Апроч таго, са словаў кіраўніка Вышэйшага гаспадарчага суду, нярэдка падатковыя інспекцыі спрабуюць праз суд спагнаць пазыкі з бюджэтных установаў, якім, у сваю чаргу, не пералічваюць грошай з дзяржбюджэту. І ў такім безвыходным становішчы цяпер знаходзіцца мноства беларускіх прадпрыемстваў.

Пры гэтым спадар Камянкоў папярэдзіў сваіх падначаленых: зрухаў да лепшага не прадбачыцца – колькасць справаў пра банкруцтва ў гаспадарчых судах будзе павялічвацца. Наагул, працы ў гаспадарчых судоў краіны з году ў год робіцца ўсё больш. Летась у гэтыя судовыя ўстановы звярталіся амаль 22 тысячы суб'ектаў гаспадарання, што на 7 тысяч больш, чым у 2000 годзе.

Агульная сума зыскавых патрабаванняў складала 344 мільярды рублёў. Праўда, спагнаць суддзям удалося толькі крыху больш за 40 мільярдаў беларускіх і 6 мільёнаў расійскіх рублёў. Ды яшчэ 15 мільёнаў даляраў і 1 мільён 700 тысяч нямецкіх марак.

**Ян МІКАЛАЕЎ**
**Радыё «Рацыя»**

# Аказваецца: ва ўсім СНД 2003-і стане годам Пецярбургу




Губернатар Санкт-Пецярбургу Уладзімір Якаўлеў ухваляе ідэю размяшчэння Парламенцкага сходу саюзу Расіі і Беларусі ў адным з будынкаў у «паўночнай сталіцы».

У той жа час на прэс-канферэнцыі ў сераду ён выказаў меркаванне, што «ўласна расійскаму парламенту лепш застацца ў Маскве».

У.Якаўлеў таксама не супраць пераносу ў Пецярбург некаторых федэральных ведамстваў, такіх, як Мінфін, Цэнтрабанк і Міністэрства культуры. На думку губернатара, у гэтым выпадку многія праблемы Пецярбургу вырашыліся б.

Яшчэ губернатар паведаміў, што краіны СНД таксама прынялі рашэнне абвесціць у сябе 2003 год годам Санкт-Пецярбургу.

Асноўныя ўрачыстасці з нагоды трохсотгоддзя Пецярбургу пройдуць у суботу, 31 траўня 2003 году, бо дзень нараджэння «паўночнай сталіцы» – 27 траўня – прыпадае на будзённы дзень.

Пра гэта губернатар Пецярбургу паведаміў у сераду ў Маскве пасля паседжання дзяржкамісіі па падрыхтоўцы да святкавання юбілею, якое прайшло пад старшынствам Уладзіміра Пуціна.

Па словах У.Якаўлева, галоўнай арэнай свята, на якой збярэцца прысутнічаць прэзідэнт Расіі, стане ўчастак Нявы між Петрапаўлаўскай крэпасцю і Эрмітажам. Увогуле ж святкаванне юбілею будзе цягнуцца цэлы тыдзень – з 24 траўня па 1 чэрвеня, і ў кожнага дня будзе свой рэжысёр.

Пры гэтым У.Якаўлеў лічыць галоўнай задачай – «зрабіць так, каб атрымалася свята для ўсіх», каб у год юбілею ў горадзе «з'явіліся, нарэшце, добрыя дарогі, былі вырашаны праблемы з жытлом, пасажырскім транспартам, працавалі тэатры, музеі і адчыняліся новыя рэстараны».

Распавядаючы пра сустрэчу з У.Пуціным па заканчэнні паседжання ў Крамлі, У.Якаўлеў сказаў, што прапанаваў зрабіць адным з элементаў кальцавой дарогі вакол Пецярбургу мост цераз Няву, каб піцерцам было лягчэй трапляць дадому.

Пры гэтым губернатар нагадаў, што на 200-годдзе гораду ў 1903 годзе царскі ўрад таксама падараваў Пецярбургу мост, названы ў гонар Тройцы, які стаў самым прыгожым у «паўночнай сталіцы».

Акрамя таго, У.Якаўлеў папрасіў прэзідэнта ўжо сёлета выдзеліць з федэральнага бюджэту 600-700 млн. рублёў на ліквідацыю разлому на Кірава-Выбаргскай лініі метро, які здарыўся ў сярэдзіне 90-х гадоў.

Па словах губернатара, у выніку падрыхтоўкі да юбілею ўдалося зрабіць «шмат такога, чаго раней дабіцца не ўдавалася». У прыватнасці, да 2003 году плануецца дабудаваць кальцавую аўтадарогу (цяпер уведзена 24 км з 66), завяршыць узнаўленне Янтарнага пакою.

Плануецца таксама накіраваць сродкі ЕБРР – 215 млн. даляраў – на комплекс збудаванняў, якія б баранілі Пецярбург ад паводкі, давесці да ладу ваенныя аб'екты.

Па словах У.Якаўлева, у Крамлі было таксама вырашана, што ў канцы гэтага году Галоўны Дзед-Мароз краіны з Валагодскай вобласці прыедзе спачатку не ў Маскву, а ў Піцер, каб такім чынам даць старт юбілею гэтага гораду.

**УА «Інтэрфакс»**

# Ходзячы каля мукі, слёзы льюць гамельчукі

*На пачатку лютага Гомель стаў месцам сустрэчы кіраўнікоў органаў дзяржаўнага кіравання, прадпрымальнікаў Жытомірскай, Кіеўскай і Чарнігаўскай абласцей Украіны з мясцовымі вытворцамі тавараў. Ініцыятарамі такой сустрэчы выступілі Гомельскі аблвыканкам і амбасадар па асаблівых даручэннях МЗС Беларусі Мікалай Вайцянкоў, які атрымаў гэтую пасаду пасля леташняга звальнення з паста галоўнага «вертыкальшчыка» вобласці.*


Фота IREX/ProMedia

Украінскім гасцям, што прыехалі ў горад над Сожам на шыкоўным аўтобусе маркі «Мерседэс», паказалі прадукцыю ААТ «Гомельшпалеры», «Гомельдрэў», ВА «Гомсельмаш», экспазіцыю мясцовых тавараў у «Аблгандальсаюзе».

Падчас абмену думкамі ў грамадска-культурным цэнтры ўдзельнікі сустрэчы адзначалі, што найлепшым перыядам у гандлёва-эканамічным супрацоўніцтве быў 1997 год, калі гандлёвы тавараабарот паміж Беларуссю і Украінай дасягнуў 1,4 мільярда даляраў ЗША. У мінулым жа годзе ён скараціўся напалову. З Жытомірскай вобласцю і таго болей – амаль у тры разы.

— Сапраўды, – удакладняе намеснік кіраўніка абласной дзяржаўнай адміністрацыі Жытоміршчыны Пятро Закусіла, – у 97-м годзе тавараабарот з беларускімі вытворцамі дасягаў ледзь не 18 мільёнаў даляраў. Летась за 11 месяцаў – толькі 3,3 мільёна.

Прычыны гэтага, на думку жытомірскага кіраўніка, перш за ўсё ў адсутнасці належных дзелавых кантактаў паміж адміністрацыямі памежных абласцей, у няўзгодненасці выпуску тавараў, мытных перашкодах.

Амбасадар Украіны ў Беларусі Анатоль Дронь, які таксама браў удзел у сустрэчы, заначыў, што ў Беларусі ўсё ж нямала ўкраінскіх тавараў, і наадварот, ва Украіне – беларускіх. Але гэтыя тавары прыходзяць найбольш праз Расію.

– Арыентацыя на Расею большая, – лічыць Анатоль Дронь. – Падаецца, што такія сувязі і заахвочваюцца болей, чымсьці з іншымі дзяржавамі. Сярод палітычных праблемаў у нас ёсць адна стрэмка: гэта нератыфікацыя дамовы пра дзяржаўную мяжу. У нас не створана прававое поле ў памежных пытаннях. Таму і мытныя, і памежныя пытанні ўзнікаюць пастаянна.

Сапраўды, следам за ўкраінскімі рэгіёнамі літаральна два тыдні таму мясцовыя памежныя зборы пры перасячэнні беларуска-ўкраінскай мяжы ўвялі Лельчыцкі, Ельскі, Гомельскія раённыя Саветы. Едзеш ва Украіну на легкавіку, плаці 5 даляраў, на грузавіку – выкладвай 10. Вяртаешся назад, таксама плаці эквівалентную суму.

Украінцы паскардзіліся, што, напрыклад, за правоз цягніком праз беларускую тэрыторыю кожнага запрошанага спецыяліста з гораду Славуціча на Чарнобыльскую АЭС трэба плаціць 200 даляраў.

Начальнік Гомельскай мытні Васіль Гнацюк, дарэчы, адзін з 240 тысячаў этнічных украінцаў, што жывуць і працуюць у Беларусі, абяцаў перавесці мытню «Камарын» з міжнародных у шэраг унутрыдзяржаўных, а адказ на высокія мыты раіў шукаць у страхавых полісах прыезджых спецыялістаў.

Чым далей я слухаў удзельнікаў сустрэчы, тым больш рабілася відавочна, што фестывалі ды конкурсы, якія праважалі да гэтага часу ў двухбаковых стасунках, эканамічных праблемаў ніяк не вырашалі. Прынамсі, доля ўкраінскіх рэгіёнаў у знешнегандлёвым абароце Гомельшчыны складае толькі 8 працэнтаў. Канкурэнтамі блізкіх суседзяў сталі ўжо і Нямеччына, і нават Вялікабрытанія.

Парадоксы літаральна на кожным кроку. Канцэрну «Белтрансгаз» патрэбны былі металічныя трубы вялікага дыяметру. Абвясцілі тэндэр. Выйгралі яго ўкраінскія вытворцы. Аднак трубы «Белтрансгаз» усё адно купляў у Расіі, пакінуўшы пераможцу тэндэру толькі мізэрную квоту.

Другі прыклад. Гамельчукі літаральна збіваюць ногі ў пошуках мукі высокіх хлебапечных гатункаў. Летась гэта праблема стала галаўным болем і для абласной выканаўчай улады. Мука ж ёсць пад бокам. Амбасадар Дронь прывёў такую лічбу: Украіна ўжо прадала з леташняга ўраджаю 6 мільёнаў тон высакаякаснай мукі.

З півам амаль такая ж сітуацыя. «Балтыку» вязуць у Гомель, што называецца, за блізкі свет. У суседнім Чарнігаве такога выдатнага напою пі – не перап'еш.

Чарнігаўцы таксама дзівяцца, чаму яны возяць мінеральныя ўгнаенні з Івана-Франкоўска, а не з Гомельскага хімічнага заводу. Прапаноўвалі адкрыць прадстаўніцтва хімзаводу ў Чарнігаве – маўчок.

Падобных недарэчнасцяў дзесяткі, калі не сотні. Цяпер бакі выказваюцца пра неабходнасць стварэння паблізу мяжы тэрміналаў для аптовага гандлю. А дырэктар чарнігаўскага таварыства «Дедал» Пятро Нявойт дзівіўся, чаму на такіх сустрэчах няма беларускіх прадпрымальнікаў. Акурат сярэдні і дробны бізнес мог бы няблага паспрыяць гандлёвым стасункам памежных абласцей.

Вядома, каб ажывіць у памежных абласцях гандлёва-эканамічныя стасункі, намаганняў адных рэгіёнаў мала. Патрэбна і дзяржаўная падтрымка такога супрацоўніцтва. Мясцовыя органы наўпрост не могуць уніфікаваць рознае падаткаабкладанне, спрасціць узаконеную працэдуру мытнага афармлення, вырашыць агульныя праблемы ўзаемаразлікаў, нарэшце, збалансаваць адносіны паміж беларускім рублём і грыўнай. Гэта прэрагатыва вышэйшых структураў улады. І вось сітуацыя. Згаданыя ды іншыя нявырашаныя праблемы двухбаковых гандлёва-эканамічных стасункаў ужо абмяркоўваліся падчас снежаньскай сустрэчы ў Чарнігаве беларускага і ўкраінскага прэм'ераў.

Кабінет міністраў Украіны 10 студзеня прыняў-такі адмысловае распараджэнне. Украінскім ведамствам даручана выкананне двухбаковых урадавых дамоўленасцяў.

Наш беларускі Саўмін, наколькі вядома, са свайго боку падобнага кроку яшчэ не зрабіў. І паколькі на двары ўжо люты, значыць, першы квартал будзе пражыты без пераменаў, а аб'яўлены на сёлета мільярдны рубеж у гандлёвым тавараабароце дзвюх краінаў можа стаць недасягальным.

**Анатоль ГАТОЎЧЫЦ**

# Камуністаў высяляюць па-савецку

Дырэктар жыллёвага рамонтна-эксплуатацыйнага аб'яднання Савецкага раёну Мінску М.Хамянок накіраваў першаму сакратару ЦК Партыі камуністаў Беларускай Сяргею Калякіну ліст, у якім дае час на высяленне з цяперашняга офісу да 1 сакавіка.

Гісторыя гэтая цягнецца з мінулага году. Летась 19 снежня (23 снежня прайшла чацвёртая сесія з'езду ПКБ, на якім дэлегаты пацвердзілі курс на апазіцыйнасць дзеючаму рэжыму) ПКБ папярэдзілі, што дамову на арэнду памяшкання па праспекце Скарыны, дзе цяпер размяшчаецца ПКБ, ЖРЭА Савецкага раёну не будзе працягваць. Рэч у тым, што тэрмін гадавога кантракту скончыўся 19 студзеня гэтага году. Аднак, ПКБ мае пераважнае права на арэнду. Тым больш што на рамонт памяшкання выдаткаваныя немалыя грошы шараговых камуністаў. У канцы студзеня ў тэлефоннай размове прадстаўнік ЖРЭА запатрабаваў ад ПКБ даведку пра тое, што кампартыя не займаецца гаспадарчай дзейнасцю, паабяцаўшы працягнуць дамову на арэнду. Аднак 28 студзеня М.Хамянок запатрабаваў да 1 сакавіка вызваліць памяшканне ў сувязі з тым, што «аб'яднанню неабходная па распараджэнні адміністрацыі раёну і Мінгарвыканкаму плошча для размяшчэння дзяржаўных структураў». Далей ідзе пералік структураў: судовыя выканаўцы Савецкага раёну, дзяржаўная натарыяльная кантора № 1, пашпартна-візавая служба таго ж раёну і аддзел дэкларавання ІДПК па Савецкім раёне Мінску. У заключэнне паведамляецца: «У сувязі з вышэйсказаным УП «ЖРЭА Савецкага раёну Мінску» прапануе вам у тэрмін да 01.03.2002 году вызваліць нежылое памяшканне па праспекце Ф.Скарыны, 46а, якое вы займаеце, па акце прыёму-перадачы, ключы здаць у ЖЭС-5, у адваротным выпадку аб'яднанне звернецца ў гаспадарчы суд з іскам аб вашым высяленні».

Аднак камуністы маркуюць праз суд даказваць свае права на арэнду памяшкання.

**Рыгор БУЯН**

# Як дурань на кірмашы

*Калі ўпершыню ў сваёй найноўшай гісторыі Беларусь здабыла незалежнасць, перад ёй адкрыўся ўвесь сусвет. І аказалася, што па той бок жалезнай заслоны ёсць многа прыгожага, прыемнага і нават карыснага. А галоўнае, там ёсць што выбіраць не толькі з глядзішча матэрыяльнага, побытавага, але, так бы мовіць, сацыяльна-эканамічнага ды палітычнага.*



Такім чынам, там можна было шмат што для сябе ўзяць як у асабістым, побытавым сэнсе, так і для дзяржавы, для яе росквіту і будучай магутнасці. Маем на ўвазе тую ці іншую мадэль развіцця дзяржавы і соцыуму, якая найбольш адпавядала нашым здольнасцям, традыцыям, інтэлектуальным ды матэрыяльным патэнцыям. Але ж, на жаль, доўгія гады чакання светлай будучыні ў скляпенні недабудаванага гмаху камунізму добра-такі папсавалі зрок шараговага беларуса. Таму амаль адно прывабнае, што ён там змог убачыць – гэта шырспажыў. Гэта гара спажывецкіх каштоўнасцяў ад зубной шчоткі да аўтамабіля.

І сапраўды было чаму здзівіцца. Бо нават той з шараговых, каму не пашэнціла прабіцца да ўлады ці зрабіць добры бізнес, атрымалі магчымасць набыць прыстойнае аўто. Зразумела, ужыванае. А вось уладныя ды камерцыйныя эліты пераселі на браніраваныя «мерседэсы» ручной зборкі з куленепрабівальным ды таніраваным шклом. А паколькі зрок і без таго быў дрэнны, то ад усяго гэтага бляску народ аслеп, як тая сава, якую ўсход сонца застаў далёка ад роднага дупла, ці крот, якога плугам вырыла на паверхню.

Таму па-за ўвагай засталося галоўнае: дзеля вытворчасці ўсіх гэтых рэчаў патрэбна вельмі напружаная і арганізаваная праца ўсяго грамадства. Так працаваць дае магчымасць і адначасова патрабуе толькі рынкавая эканоміка. Бо канкурэнцыя жорсткая, таго, хто не плаціць па крэдытах, яна проста выкідае. Гультаям жа і размеркавальнікам зробленага чужымі рукамі ў ёй увогуле няма месца: нельга сядзець у цянёк, калі іншыя выпінаюцца. Зразумеўшы гэта, нашы гультаі і кіраўнікі (часта гэта адны і тыя ж людзі) вырашылі, што цывілізаваным шляхам яны не пойдуць і, зразумела, народ на прамую дарогу не павядуць. Вырашана было крочыць дзе ўзмежкам, дзе задворкамі, маўляў, неяк выкараскаемся. Уласна, гэта і ёсць беларускі шлях, беларуская мадэль сацыяльна-эканамічнай рэформы. Трэба сказаць, што першым часам на гэтым шляху сустракаліся то калодзеж з чысцюткай халодненькай вадзіцай, то чыя-небудзь няжатая палоска, ці нават склад бляшанак з кансервамі *«Завтрак туриста»*, некалі назапашаных на выпадак атамнай вайны. Але настаў час, калі калодзежы, якіх ніхто не рамантаваў і не чысціў, перасохлі, збожжа на палосках ці асыпалася, ці яго падзяўблі вароны, а за апошнюю кансерву ўсчалася бойка паміж правадыром ды яго памагатымі.

А шляху таму беларускаму канца не відаць. Азірнуліся назад: «Бацюхны, вунь жа старт. Выходзіць, харчы з'елі, а з месца не зрушылі. Трэба ж нешта рабіць, бо памром ад голаду і холаду». А як і што? Безумоўна, вырашылі праводзіць рэформу. Але па заходнім узоры, з аднаго боку, сорамна, а з другога – небяспечна, бо народ можа спытаць праваднярою: «Што ж вы нас вадзілі, як тых дурняў па кірмашы? Чаму памянялі быка на індыка?»

Таму падумалі правадыры і аб'явілі: «Бяром за ўзорную для беларусаў кітайскую мадэль!» І выправілі ў Паднябесную вялікую парламенцкую дэлегацыю. І пабачылі, што ў аснове кітайскага эканамічнага цуду ляжаць адкрытасць краіны, фарміраванне цёплага інвестыцыйнага клімату, стварэнне новых вытворчасцяў, падтрымка прадпрымальніцтва, стабільнасць у грамадстве. Таму, на думку спікера верхняй палаты, менавіта гэты шлях павінна абраць Беларусь. Але чаму? Адзіная агульная рыса – гэта грамадская стабільнасць. Але ў Кітаі – стабільнасць развіцця, хуткая дынаміка пазітыўных працэсаў. У нас стабільнасць рэгрэсу, устойлівая адмоўная дынаміка з нейкай змрочнай, але цалкам лагічнай парадыгмай вымірання людзей, жывёлы, дэградацыі вытворчасці. Усё быццам ідзе ў тлум і глум, калі не лічыць за праявы прагрэсу намаганні па эстэтызацыі сацыяльна-культурнага асяродку ў Мінску. Дый тое робіцца коштам ліквідацыі дзейнага пачатку, тых жа кіёскаў, якія з'явіліся намаганнямі прадпрымальнікаў і былі адзінай светлай плямай на агульным шэрым фоне цалкам збюракрачанага асяроддзя. А ўсё астатняе – адкрытасць, свабода асабістай ініцыятывы – агульныя для Кітая і іншых нармальных краінаў рысы.



Таму няма ніякай патрэбы рабіць з беларусаў кітайцаў, не трэба прымушаць іх прыжмурвацца ды вывучаць іерогліфы. Бо належаць беларусы, што нікаму здаецца дзіўным, не да жоўтай, а да белай расы, і жывуць не ў Азіі, а ў самай што ні ёсць Еўропе. Спадзяёмся, што гэтак будзе і далей. А калі так, то і мадэль для развіцця трэба браць адпаведную і ўвогуле нешта рабіць, бо стадыя вывучэння чужога вопыту неймаверна зацягнулася. Іншыя ўжо паспелі і разбагацець, і разарыцца, і зноўку зажыць заможна. А мы носімся са сваёй самабытнасцю, як той дурань з пісанай торбай.

**Канстанцін СКУРАТОВІЧ**

# Пенсіянеры «пастарэюць»

*Летась памер пенсіяў пералічваўся 5 разоў, а па выніках году ён агулам падвысіўся на 36%. Гэта асноўная крыніца жыцця, хай і мізэрная, для 2,5 мільёнаў беларусаў-пенсіянераў.*

Як заявіла міністр працы і сацыяльнай абароны Антаніна Морава на калегіі міністэрства, рэфармавання пенсійнай сістэмы нам не пазбегнуць. Цяперашнім эканамічным варункам яна ўжо не адпавядае і да таго ж ставіць пад пагрозу дабрабыт пенсіянераў. Небяспека крыецца ў тым, што існуючая сістэма пенсійных выплатаў трымаецца на адлічэннях наймальнікаў у фонд сацыяльнай абароны, а фінансавы стан беларускіх прадпрыемстваў з кожным годам горшае. Каб паслабіць гэтую небяспечную залежнасць пенсіянераў ад нестабільнасці ў эканоміцы, на думку міністра, трэба развіваць новыя альтэрнатыўныя крыніцы фінансавання сістэмы выплаты пенсіяў.

Паступовае рэфармаванне сістэмы павінна адбыцца цягам бліжэйшых 2-3 гадоў. З рэфармаваннем мусяць з'явіцца розныя формы пенсіяў, страхавыя і нестрахавыя выплаты. Сума пенсіі цяпер будзе залежаць ад велічыні выплачаных унёскаў, а абавязковае пенсійнае забеспячэнне распаўсюдзіцца і на індывідуальных прадпрымальнікаў. Для ўзмацнення сістэмы сацыяльнага страхавання патрэбна дзяржаўная накапляльная праграма. На думку Антаніны Моравай, у гэтым плане для нас можа быць прымальным шлях, па якім пайшла Расія.

З 1 снежня 2003 году пачне дзейнічаць закон «Аб індывідуальным персаніфікаваным уліку», па якім на кожнага працоўнага будзе заведзены індывідуальны рахунак. На працягу ўсяго перыяду працы тут будзе фіксавацца інфармацыя аб стажы, суме заробку і аб сумах выплачаных страхавых унёскаў. Такі ўлік кожнага працоўнага дасць дзяржаве магчымасць спрагназаваць выдаткі на пенсійныя выплаты і, што досыць актуальна, скароціць выпадкі фальсіфікацыяў звестак для прызначэння пенсіяў. Напрыклад, па выніках праверак, якія праводзяцца перад прызначэннем пенсіі, выяўляецца, што ў 16% выпадкаў інфармацыю аб працы ў асаблівых умовах работнікі фальсіфікуюць, каб атрымліваць ільготную пенсію.

Антаніна Морава яшчэ раз пацвердзіла, што нам трэба рыхтавацца да падвышэння пенсійнага ўзросту. Але гэты працэс будзе паступовым і перад ім будзе разгорнута тлумачальная праца з насельніцтвам. Па яе словах, у суседніх з намі краінах, за выключэннем Расіі, пенсійны ўзрост павялічаны ў сярэднім на 3-5 гадоў. Прычына паўсюль адна: колькасць эканамічна актыўнага насельніцтва памяншаецца, пенсіянераў болей, а ад гэтага ўзрастае эканамічная нагрузка на пенсійную сістэму. «Разгрузіць» яе можна толькі падвышэннем пенсійнага ўзросту. Як патлумачыла міністр працы і сацыяльнай абароны, зніжэнне чаканай працягласці жыцця мужчын (63 гады) і жанчын (74 гады) у Беларусі, на якое спасылаюцца праціўнікі падвышэння ўзросту, не тычыцца сённяшняга часу – гэта праекцыя становішча, якое, магчыма, складзецца на Беларусі толькі праз 50 гадоў.

**Алена ЛАБАНАВА**

# «Шлях да камунізму» прывёў да Шруба

Работнікі калгасу «Шлях да камунізму» Жыткавіцкага раёну Гомельскай вобласці прынялі рашэнне аб далучэнні да фермерскай гаспадаркі Міхаіла Шруба. Аб гэтым БелаПАНу паведаміў фермер Шруб.

Міхаіл Шруб двойчы называўся лепшым фермерам Беларусі, а апошнім часам стаў вядомы і як гаспадар, які цвёрда адстойвае перад уладай свае правы. Дзякуючы сваёй настойлівасці жыткавіцкі фермер вярнуў незаконна адабраныя ў яго землі, у ліку якіх былі і тыя, што належалі адстаючаму калгасу «Шлях да камунізму». І вось на агульным сходзе калгаснікі прагаласавалі за далучэнне ўсім калектывам да фермерскай гаспадаркі Міхаіла Шруба. Паводле словаў фермера, адным з галоўных матываў людзей было тое, што яны хочуць працаваць і зарабляць грошы. Трэба адзначыць, што заробатная плата ў фермера ў сярэднім у тры разы вышэйшая, чым у калгасах раёну.

**Ірына ШАНЦАВА, БелаПАН**

# Эканамічна неактыўныя

Паводле звестак, прыведзеных на калегіі Міністэрства працы і сацыяльнай абароны, мінулым годам на 100 чалавек, якія звольніліся з працы, прыпала толькі 94, што нанава працаўладкаваліся. У выніку колькасць эканамічна актыўнага насельніцтва ў Беларусі летась скарацілася на 1,2%.

Службы занятасці маюць магчымасць уладкаваць менш за палову тых, хто звярнуўся да іх па дапамогу ў пошуку працы. Сярод выпускнікоў школаў і навучальных установаў гэтая лічба яшчэ ніжэйшая – з 26 тысяч юнакоў і дзяўчат, якія звярнуліся ў службу занятасці летась, працаўладкавалася толькі кожны чацвёрты. Прычым працаваць ім даводзіцца за мізэрныя грошы, бо кан'юнктура працоўнага рынку пагаршаецца. Па пераважнай колькасці вакансіяў, якія прапануюць службы занятасці, аплата працы нават не дасягае мінімальнага спажывецкага бюджэту.

Міністэрства працы і сацыяльнай абароны разглядае пытанне, як павялічыць дапамогу па беспрацоўі. Зараз яе памер у Беларусі самы мізэрны ў СНД. Гэта не дае грамадзянам, што засталіся без працы, ніякага стымулу звяртацца па дапамогу да дзяржавы, а той у сваю чаргу няма як вызначыць рэальны ўзровень беспрацоўя. Афіцыйна ён не перавышае 2,3% ад колькасці эканамічна актыўнага насельніцтва. Аднак тут трэба ўлічваць яшчэ тых, хто працуе няпоўны рабочы дзень, а гэта не менш за 240 тысяч чалавек. Прагнозы Міністэрства працы не суцяшальныя. Рызыка згубіць працу толькі павялічыцца, а прыхаванае беспрацоўе паступова пяройдзе ў адкрытае. Варта чакаць падвышэння ўзроўню беспрацоўных.

**Алена ЛАБАНАВА**

СВЕТ

# Марыхуана – медыцынскі сродак

У Канадзе сабраны першы афіцыйны ўраджай марыхуаны. Прадстаўнікі федэральнага Міністэрства аховы здароўя пацвердзілі, што партыя гэтага прадукту хутка будзе гатова да адпраўкі пацыентам, якія церпяць на цяжкія формы розных захворванняў.

У канцы ліпеня 2001 году ў Канадзе ўвайшоў у сілу закон, які дазваляе выкарыстоўваць марыхуану ў медычных мэтах дзеля зняцця прыступаў хранічнага болю ў людзей, якія церпяць на СНІД, склероз, рак і іншыя цяжкія хваробы.

Першы сабраны ў Канадзе на законных падставах ураджай марыхуаны паступіць у даследчыя цэнтры і 680 хворым, якім дадзены дазвол на яе набыццё. Згодна з новым законам, зарэгістраваным хворым дазваляецца не толькі паліць марыхуану, выдаткі на набыццё якой будзе кампенсаваць дзяржава, але і вырошчваць яе ў хатніх умовах. Невылечна хворым таксама дадзена права выбару формы дастаўкі ім гэтага тэрапеўтычнага сродку – у выглядзе цыгарэт або ў брыкетах. Спосабы дастаўкі таксама прапануюцца на выбар: у аптэкі, у мясцовыя аддзелы аховы здароўя або з адмысловым кур'ерам.

Першая і пакуль адзіная ў Канадзе легальная плантацыя марыхуаны знаходзіцца ў шахце ў правінцыі Манітоба. Падземны аазіс пад возерам Флін-Флон, па сваім памеры большы за тры футбольныя палі, надзейна ахоўваецца.

**Барыс ГРУШЫН**

# Аўтагігант «Рэно» – зноў першы ў Еўропе

Французскі канцэрн «Рэно» ў чацвёрты раз запар заняў у 2001 годзе першае месца ў Еўропе па продажы сваіх аўтамабіляў, пацвердзіўшы сваю ролю лідэра ў гэтай галіне.

Аб'ём прададзеных машын розных мадыфікацыяў склаў 2,4 млн. штук, што на 2,2% больш, чым у 2000 годзе, паведаміў камерцыйны дырэктар «Рэно» Франсуа Анфрэ.

Найбольшы рост продажаў аўтамашын маркі «Рэно» – амаль 24% – зарэгістраваны ў краінах Цэнтральнай Еўропы, дзе французскі аўтаканцэрн перасунуўся з 5 на 3 месца. Тут асноўныя спажыўцы ягонай прадукцыі – Славенія, Харватыя, Польшча, Венгрыя. А ў Румыніі машыны, якія вырабляюцца на базе «Рэно», складаюць 60% аўтамабільнага рынку краіны.

Нават нягледзячы на моцную канкурэнцыю з боку мясцовых вытворцаў, «Рэно» змог палепшыць свае пазіцыі ў Заходняй Еўропе (1,9 млн. аўтамабіляў), у прыватнасці, у Германіі, Вялікабрытаніі, Італіі, скандынаўскіх краінах. Што да Іспаніі, Партугаліі і Бельгіі, дык тут машыны «Рэно» даўно займаюць стабільнае першае месца па продажах.

У самой Францыі, нягледзячы на рост вытворчасці і продажаў машын, «Рэно» страціў частку аўтамабільнага рынку, што было звязана з непрадбачанымі выдаткамі на асваенне новых тэхналогіяў, частковым падзеннем попыту і ўзмацненнем канкурэнцыі.

**Андрэй ЦІМАФЕЕЎ**

## Колькі зарабляюць польскія акторы?

Сярэдняя месячная заработная плата ў сучаснай Польшчы не перавышае 400 даляраў. Аднак зоркі польскага тэлебачання і шоу-бізнесу прызвычаіліся атрымліваць значна больш суму нават за адзін дзень працы.

Самыя высокааплатныя акторы польскага кіно цяпер – Марэк Кондрат і Багуслаў Лінда. За адзін дзень, праведзены на здымачнай пляцоўцы, ім выплачваюць ганарар у 7 тысячаў злотых (каля 1 750 даляраў). Так, за 20 дзён здымак у папулярнай стужцы «Пан Тадэвуш» Багуслаў Лінда атрымаў 140 тысячаў злотых.

Падчас працы над нашумелым фільмам *«Quo vadis?»* (фільм ішоў з аншлагам ва ўсіх кінатэатрах Польшчы і нават вылучаўся на «Оскара») Лінда, які граў ролю рымскага арыстакрата Петронія, запатрабаваў падвысіць сабе ганарар да 8 тысячаў злотых (дзве тысячы даляраў) за дзень здымак. І атрымаў іх.

Своеасаблівы рэкорд паставіў актор Міхал Жаброўскі. За галоўную ролю ў фільме «Ведзьмін» (кінастужка ў жанры фэнтэзі) ён атрымаў ад прадзюсераў роўна 400 тысяч злотых, г.зн. 100 тысяч даляраў. Здымкі ж ішлі крыху болей за два месяцы.

Самая высокааплатная прадстаўніца польскага шоу-бізнесу – спявачка Кая. Толькі адзін яе выступ на навагодняй вечарыне быў ацэнены ў 150 тысячаў злотых (трохі меней за 40 тыс. даляраў).

Сапраўдным залатым дном для польскіх актораў стала рэклама. Адзняўшыся ў роліку, які рэкламуе адзін з пенсійных фондаў, Багуслаў Лінда зарабіў адразу паўмільёна даляраў!

А вось сцэнарысты, якія сваімі творамі даюць акторам шанец зарабіць шалёныя грошы, не могуць пахваліцца высокімі ганарарамі. Цана добрага сцэнара не перавышае 20 тысячаў злотых (каля 5 тысяч даляраў). Рэжысёры атрымліваюць за здымкі аднаго поўнаметражнага фільма ў сярэднім у два разы больш – 40–50 тысячаў злотых. Адзінае выключэнне з агульнага правіла – мэтр Анджэй Вайда, ганарары якога супастаўляльныя з даходамі лепшых актораў. Многія рэжысёры сыходзяць з кіно ў рэкламу. Даходы там непараўнальна вышэйшыя. За адзін паўхвілінны рэкламны ролік рэжысёр можа зарабіць 35 тысячаў даляраў.

Большасць вядомых актораў, не абмяжоўваючыся даходамі ад сваёй асноўнай прафесіі, як і заходнія калегі, укладаюць грошы ў рэстаранны бізнес. Напрыклад, такія дзеячы кінематографу, як Лінда, Кондрат, Малайкат і Замахоўскі, скінуўшыся, адкрылі ў Варшаве рэстаран «Прагібіцыя» («Сухі закон»).

Аднак майстры польскага шоу-бізнесу не збіраюцца прыпыняцца на дасягнутым. Яны хочуць браць прыклад са сваіх заходнееўрапейскіх калегаў і спадзяюцца, што пасля ўваходу Польшчы ў ЕС іх ганарары вырастуць яшчэ больш.

**Аляксей КАРЦАЎ**

**МЕДЫЦЫНА**

## Поспех навукоўцаў

У Японіі абвесцілі пра вялікі поспех у барацьбе з ракам печані. На васьмі пацыентах з цяжкой формай гэтай хваробы выпрабавалі новую сістэму лячэння, распрацаваную групай вучоных з Осакскага універсітэта.

Згодна з апублікаванымі звесткамі, праз некалькі месяцаў клінічных выпрабаванняў тры чалавекі вылечыліся цалкам, а ў астатніх пухліна зменшылася ў два разы. Па словах кіраўніка праекту прафесара Морыта Мандэна, схема лячэння грунтуецца на прымяненні разнавіднасці антывірусных бялка інтэрферону ў камбінацыі з супрацьпухлінным сродкам – 5-фторурацылам.

Японскае міністэрства аховы здароўя і працы канстатуе, што па колькасці лятальных зыходаў рак печані стаіць на чацвёртым месцы сярод усіх злаякасных пухлінаў. У адной Японіі ад яго штогод паміраe прыблізна 30 тысячаў чалавек.

**Сяргей МІНГАЖАЎ**

## Атлусценне выклікае рак

Брытанскія вучоныя высветлілі, што атлусценне часцей, чым паленне, выклікае ракавыя захворванні ў чалавека.

Як паведамілі ў НДІ анкалогіі, спецыялістам удалося выявіць адмысловы ген, адказны за «набіранне вагі» чалавекам. Яго можна падавіць з дапамогай новага прэпарату – «Орлістат», ён жа «Ксенікал» – у версіі кампаніі-вытворцы «Рашэ». Праблема атлусцення – адна з найбольш вострых у Вялікабрытаніі, дзе 20% насельніцтва маюць лішак вагі, што ў тры разы вышэй за паказчыкі 80-х гадоў.

Медыкі радзяць людзям карыстацца спрошчанай формулай якаснай ацэнкі стану вагі свайго цела: падзяліць вагу ў кілаграмах на ўзяты ў квадрацe рост у метрах. Калі атрыманы вынік перавышае 25, то ў вас лішак вагі, а калі больш за 30 – ужо пачалося атлусценне.

**Сяргей БАЖЭНАЎ**

## Бег і розум

Рэгулярны бег трушком не толькі аказвае агульнае аздараўленчае ўздзеянне на чалавека, але і падвышае яго інтэлектуальныя здольнасці.

Японскія медыкі абследавалі групу здаровых маладых людзей, якім прапанавалі на працягу трох месяцаў бегаць трушком два-тры разы ў тыдзень па паўгадзіны. Цягам усяго эксперыменту яго ўдзельнікі рэгулярна праходзілі камп'ютэрныя тэсты на памяць і кемлівасць. Высветлілася, што ўсе як адзін маладыя людзі пад канец трохмесячнага эксперыменту рашалі тэсты значна хутчэй і са значна лепшымі паказнікамі.

Праўда, папярэджваюць японскія навукоўцы, потым тыя з удзельнікаў эксперыменту, якія перасталі бегаць, паступова вярнуліся да свайго ранейшага інтэлектуальнага ўзроўню.

**Павел ВАНІЧКІН**

# Пад лічынай рэстаўрацыі

*Зараз у сталіцы Беларусі адбываюцца значныя змены. Ідзе актыўнае будаўніцтва ў розных частках гораду, у тым ліку і ў гістарычнай яго частцы – Верхнім горадзе. Адзін з такіх аб'ектаў – будынак на рагу вуліц Камсамольскай і Рэвалюцыйнай, у якім ЗП «Гольдэн Лак» вядзе рэстаўрацыйныя работы.*



Мінск. Старадаўні будынак на рагу Камсамольскай і Рэвалюцыйнай да рэстаўрацыі



Фота Ул. ШЛАПАКА

Той самы помнік архітэктуры пасля «рэстаўрацыі», аздоблены надбудовай на густ заказчыка

Гэтае будаўніцтва выклікала неадназначную рэакцыю ў грамадстве. Адны мяркуюць, што гэта добра, бо нарэшце пачалося аднаўленне старой часткі Мінску, а другія – б'юць у званы, папярэджваючы аб знішчэнні нацыянальнай архітэктурнай спадчыны. Сутнасць праблемы ў тым, што аднапавярховы дом XIX ст. на Рэвалюцыйнай, 9 пасля рэканструкцыі фірмай «Гольдэн Лак» істотна змяніў свой знешні выгляд, у прыватнасці, быў надбудаваны другі паверх, які выпадае з агульнай стылістыкі забудовы Верхняга гораду. Апроч таго, гэты будынак злучылі з суседнім будынкам па Рэвалюцыйнай, 12/14 новым вестыбюлем на месцы ранейшага вузкага праходу паміж імі. Сітуацыя ўскладняецца тым, што будынак па Рэвалюцыйнай, 12/14 хоць і мае два нумары, але відавочна ўяўляе сабою адзінае цэлае. Тым не менш фірма «Гольдэн Лак» выкарыстоўвае ў будаўніцтве толькі частку яго. Па словах галоўнага інжынера фірмы Аляксандра Лімара, гэта з-за таго, што будынак прадаваўся па частках; другую палову будынка рэстаўруе фірма «Амалфея», якая распрацоўвае свой праект.

### Грамадства

На думку супрацоўніка Добраахвотнага таварыства па ахове помнікаў архітэктуры Уладзіміра Дзянісава, у Верхнім горадзе адбываецца знішчэнне помніка архітэктуры XVIII – XIX стст. З яго словаў, гэты будынак прынялі пад ахову разам з усім Верхнім горадам пастановай Савету міністраў БССР як помнік рэспубліканскага значэння і ўнеслі ў дзяржаўны спіс помнікаў горадабудаўніцтва і архітэктуры Мінску яшчэ ў 1988 годзе, і гэтай пастановы яшчэ ніхто не адмяняў. Акрамя гэтага, паводле артыкулу 28 Закону аб ахове гісторычна-культурнай спадчыны (1992г.) забараняюцца разбурэнне і навукова не абгрунтаваныя змены матэрыяльных нерухомых каштоўнасцяў. Нягледзячы на забарону, помнік быў цалкам знесены, і на яго месцы пабудавалі «абсалютна новы па формах і матэрыялах, эклектычны па архітэктуры будынак, які парушае гістарычнае асяроддзе і цалкам скажае гістарычны характар гэтай часткі Верхняга гораду». План рэстаўрацыі гэтага будынка, па яго словах, мусілі вынесці на разгляд Навукова-метадычнай рады, але гэтага зроблена не было, і ў ліпені 1999 г. Камітэт па ахове гісторычна-культурнай спадчыны, які ачольваў Д.Бубноўскі, выдаў дазвол на правядзенне «рэстаўрацыйных» работ.

### «Гольдэн Лак»

Аляксандр Лімар лічыць, што надбудова другога паверху не скажае гістарычнага выгляду Верхняга гораду і што гэта (пры ўмове захавання першага паверху) – прынятая ва ўсім свеце практыка. Ён таксама паведаміў, што выгляд будынка па Рэвалюцыйнай, 14 не змяніўся. Пры ягоным аднаўленні былі замацаваныя падмуркі і рэканструяваныя сцены. Што да дома №16, то даследчая ўстанова «Буднавука» зрабіла выснову, што сцены не выконвалі сваёй функцыі, а таму іх і разбурылі. Падмуркі ж і сутарэнні былі захаваныя і замацаваныя. Праект распрацавала Аксана Ткачук у творчай майстэрні архітэктара І.Жураўлёва. Была праведзена экспертыза праекту, і ў яго не знайшлося працўнікаў. Навуковы кіраўнік работ – Ігар Русецкі. Па словах галоўнага інжынера, Дэпартамент па ахове гісторычна-культурнай спадчыны кантралюе рэстаўрацыйныя работы і выказвае бягучыя прэтэнзіі да рэстаўрацыі. Забудову праходу паміж дамамі №14 і 16 ён лічыць мэтазгоднай, бо гэты праход, з ягоных словаў, быў зборнікам смецця.

### Чыноўнікі

Намеснік дырэктара Дэпартаменту па ахове гісторычна-культурнай спадчыны і рэстаўрацыі міністэрства культуры Ігар Чарняўскі, да якога я звярнуўся па каментар, сказаў, што будаўнічыя работы на будынку № 16 нельга назваць рэстаўрацыяй, бо быў надбудаваны не толькі другі паверх, але і зменены выгляд першага. Цяпер будынак мае новы памер, планіроўку памяшканняў, іншую сталярку з ПВХ, а гэта недапушчальна пры правядзенні рэстаўрацыйных работ. Рэканструкцыя гісторычна-культурных каштоўнасцяў прадугледжвае толькі паляпшэнне тэхнічнага стану з дапушчэннем участковай змены канструкцый і неістотных фізічных асаблівасцяў пабудовы. Магчымыя таксама змены, што дарэалізоўваюць аўтарскую задуму, якая мусіць быць дакладна пацверджана дакументальна і абгрунтавана навукова, але нівод зін з відаў работ не дазваляе поўнай перабудовы аб'екта. Што ж датычыць падзелу дома па Рэвалюцыйнай, 14, то ў гэтым, на думку намесніка дырэктара, бяды няма, бо ўласнік другой паловы дома мае ўзгадніць свой праект рэстаўрацыі з Дэпартаментам, а той разгледзіць пабудову як цэлую.

Дэпартамент не выказваў афіцыйных прэтэнзій супраць будаўнічых работ, бо не мае для гэтага юрыдычных падставаў. Праект узгаднілі з Камітэтам па ахове гісторычна-культурнай спадчыны, яго зацвердзіў Д.Бубноўскі. А закон зваротнай сілы не мае.

На думку І.Чарняўскага, знос пабудовы на рагу Камсамольскай і Рэвалюцыйнай стаў магчымы ў выніку таго, што адпаведна з Законам ад 1992 году з 1 студзеня 1993 г. быў уведзены ў дзеянне артыкул, які прадугледжвае складанне Дзяржаўнага спісу гісторычна-культурных каштоўнасцяў. Але ў заканадаўчы акт ад самага пачатку былі закладзены заганны механізм, бо ў ім не было прапісана, хто і калі мае ўносіць каштоўнасці ў гэты спіс, а аўтаматычна яны з ранейшых спісаў у новы не пераходзілі. Іншымі словамі, калі старшыня Камітэту па ахове гісторычна-культурнай спадчыны пажадае ўнесці аб'ект у спіс – ён набудзе статус каштоўнасці з адпаведнай катэгорыяй аховы, а калі не – то норма закону ў адносінах да яго можа трактавацца адвольна.

Атрымалася так, што будынак па Камсамольскай, 9/16 як частка гісторычнага цэнтру Мінску трапіў у Дзяржаўны спіс толькі ў сакавіку 2001 г., калі ўжо фактычна не існаваў. Такім чынам, на момант зацверджання праекту рэканструкцыі будынак дэ-юрэ не быў гісторычна-культурнай каштоўнасцю, а таму Навукова-метадычная рада па гэтым пытанні не склікалася.

### Рэальнасць

Так ці інакш, цяпер у Дзяржаўным спісе гісторычна-культурных каштоўнасцяў знаходзіцца фактычна пабудова XXI ст., а аўтэнтычнага будынку XIX ст. больш не існуе.

Але, як запэўніў спадар Чарняўскі, рызыкі далейшага знішчэння забудовы Верхняга гораду зараз амаль няма, бо пасля ўтварэння Дэпартаменту істотна змяніўся падыход да аховы архітэктурных каштоўнасцяў. Безумоўна, могуць узнікнуць памылкі – ніхто не застрахаваны, але для таго, каб іх пазбягаць, праекты рэстаўрацыі рэцэнзуюцца незалежнымі (незацікаўленымі) архітэктарамі і ўстановамі, хоць і гэта не можа даць поўнай гарантыі.

**Алесь АЛЕЙНІК**

Галоўны рэдактар **Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, вул. Рафіева, д.25, корп.1. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1119 Нумар падпісаны ў друк 7/02/2002 (15:00) Наклад – 8.370